Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

No 4(40) 26 студзеня -- 1 лютага 1996 года ЦАНА 1000 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

# Бомба ў дзіцячай бальніцы – не жарт,

## таму аўтара жахлівага паведамлення шукаюць міліцыя і КДБ.

***У аўторак у 14.30 загадчыцы тэрапеўтычнага аддзялення Маладзечанскай гарадской дзіцячай бальніцы Н. Радчынай патэлефанаваў невядомы. Ён папярэдзіў:***

–У будынак бальніцы закладзена выбуховае прыстасаванне.

–Дзякуй за жарт,– адказала Наталля Васільеўна.

–Гэта не жарт,– далей ішлі кароткія гудкі.

Паўгадзіны спатрэбілася адміністрацыі бальніцы, каб абмеркаваць абставіны складанага становішча з кіраўнікамі неабходных арганізацый, спыніць звычайны рытм работы і пачаць эвакуацыю.

...Толькі скончыліся аперацыі. Рэанімацыйныя хворыя ў цяжкім стане, неданошанае дзіця пад каўпаком. Маці з немаўляцямі. 143 дзіцяці, 45 мацярок, 60 чалавек персаналу знаходзілася ў бальніцы. Галоўны ўрач ГТМА Казімір Іосіфавіч Клыга дае распараджэнне: машыны "хуткай дапамогі" кінуць на эвакуацыю дзіцячай бальніцы. Цяжкахворых і пасляаперацыйных перавозяць у радзільны дом, дзіцячую паліклініку, новую прыбудову клуба, што знаходзіцца побач. Хто мог хадзіць– ішлі самі. Дадому. А ініцыятар здарэння, напэўна, быў недзе побач. Назіраў. Магчыма, зразумеў, што яго жарт адбыўся невясёлым. Каля 16 гадзін патэлефанаваў ізноў.

Медыцынская сястра, якая стамілася ад экстрэмальнага становішча ў бальнцы, пачула:

–Гэта сапраўды быў жарт.

Але эвакуацыя ўжо завяршылася. Справа была даведзена да канца. Абласныя спецпадраздзяленні, якія прыбылі ў Маладзечна, пасля праверкі змаглі сказаць: выбуховага прыстасавання не знойдзена.

Толькі вечарам, каля 20 гадзін, супрацоўнікі дзіцячай бальніцы вярнуліся да свайго непасрэднага занятку– лячыць хворых. Частка іх за гэты дзень атрымала ўскладненне хваробы. Маральныя траўмы.

Колькі каштуе падобны жарт? Нельга вылічыць аднымі грашыма. Імя злачынцы пакуль невядомае. Па факту ўзбуджана крымінальная справа.

## Так жартуюць дэбілы

**Сяргей Іванавіч Цвірко– урач-псіхатэрапеўт Маладзечанскага неўралагічнага дыспансера:**

–Па тэлефоне прагучала папярэджанне. Па-першае, можа быць, падлеткі "пажартавалі". Хто так жартуе, мы можам уявіць,– дэбілы. Па-другое, выпадак можна лічыць псіхапатычнай рэакцыяй. Чалавек жадае, каб на яго звярнулі ўвагу. Бо ў натоўпе ён шэры і яму трэба, як бы тое ні было, вызначыцца. Такая рэакцыя набытая ў сям'і ў негатыўным асяроддзі. Каб больш не было падобнага, я звяртаюся да такіх асоб: прыходзьце да нас, і мы акажам кваліфікаваную дапамогу. Хвароба будзе развівацца далей, і можна скончыць у турме, альбо ў псіхбальніцы.

## Злачынца патрабаванняў не выстаўляў

**Валерый Голуб, гарраўваенком:**

–Выпадак расцэньваю як крымінальнае злачынства. Тэрарыстычным актам гэта назваць нельга, бо асобай, якая патэлефанавала з папярэджаннем, ніякія патрабаванні не выстаўляліся.

За кожным горадам, раёнам на такія выпадкі замацавана сапёрнае падраздзяленне вайсковай часткі. Не выключэнне і Маладзечна. У горад адразу былі дастаўлены сапёры Мінскага гарнізона, якія выканалі сваю справу і, дзякуй Богу, нічога не знайшлі. А наогул, з сапёрамі мы падтрымліваем рабочыя адносіны. Кожны год у час сельгасработ на палях знаходзяць падарункі часоў Вялікай Айчыннай вайны. Таму работы па размініраванню хапае і нам, і салдатам.

## Калі вінаватыя дзеці

**Міжрайпракурор Генадзь Вештарт** адзначыў хуткасць і аператыўнасць, з якой былі праведзены неабходныя дзеянні. Адразу на месца прыбылі кіраўнікі ГРАУС, КДБ, ГТМА, ГА, ваенкамата, пракуратуры. Ён гаворыць, што вельмі непрыемнае ўражанне пакінула сама эвакуацыя, калі дзеці вымушаны былі тэрмінова садзіцца ў машыны прама ў бальнічных тапачках. Аператыўна спрацавалі сапёры і міліцыя.

Машыны "хуткай дапамогі" пад'язджалі да самых дзвярэй бальніцы. І гэтыя машыны ў той час дарэмна чакалі хворыя.

## Шанц ёсць

Званкі ў бальніцу, вядома, не фіксаваліся спецыяльнай апаратурай. Менавіта таму сумненні ў эфектыўнасці пошуку ёсць. Але ж не толькі апаратура можа быць памочнікам у такой справе. Спецыялісты з Мінска расшыфроўвалі і не такія рэбусы.

А адказ **начальніка аддзела ўнутраных спраў Яўгена Скварцова** на пытанне нашага карэспандэнта хаця і быў надзвычай кароткім, ды ўпэўненым:

–Шанц ёсць заўсёды.

***Матэрыялы падрыхтаваныя аддзелам інфармацыі "РГ"***

## У нашым рэгіёне

### Гульня, вартая свечак

***У верасні бягучага года павінна даць першы ток гідраэлектрастанцыя, увядзенне якой пачалося на Вілейскім вадасховішчы.***

Само вадасховішча з'явілася на карце раёна больш дваццаці гадоў таму– у 1974-м. Можна толькі ўявіць колькі вады сплыло "ухаластую" за гэты час, калі праз вадаскід плаціны яе штосекундна павінна праходзіць не менш васьмі метраў кубічных– такая абавязковая ўмова эксплуатацыі вадасховішча. Але, падаецца, сітуацыя вось-вось пераменіцца: летась у кастрычніку вілейская ПМК-1 прыступіла да будаўніцтва першай чаргі гідраэлектрастанцыі.

Па словах Мікалая Аляксандравіча Шчытнікава, начальніка Вілейскага цэха па эксплуатацыі гідразбудаванняў, з яе пускам танная электраэнергія паступіць у мясцовую сістэму і здольная будзе забяспечыць бесперапынную работу найбольш жыццёва важных аб'ектаў горада. Хлебазавод, напрыклад. Альбо бальніца. Да таго ж, шмат якія збудаванні Вілейска-Мінскай воднай сістэмы таксама будуць пераведзены на спажыванне "уласнай" энергіі.

Будаўніцтва гідраэлектрастанцыі на вадасховішчы напрошвалася даўно: вады– цэлае мора, гатовая плаціна з вадаводамі. Ёсць, нарэшце, кваліфікаваныя кадры. Аднак толькі апошнім часам, калі краіна адчула дэфіцыт электраэнергіі, справа зрушылася з месца. Увасобіць ідэю ў жыццё ўзялося сталічнае малое прадпрыемства "Энергетык", якое выступіла ў ролі заказчыка. Яно ж набыло ў Санкт-Пецярбургу неабходнае абсталяванне– турбіны і генератары.

Дарэчы, з поўным уводам гідраэлектрастанцыі ў дзеянне, а ён намечаны на 1997 год, яна зможа выпрацоўваць да 10 працэнтаў электраэнергіі, неабходнай Вілейшчыне на працягу года. Гульня, пагадзіцеся, вартая свечак. Электрычных.

*Віталь ПАШУК.*

### Чалавек з кнігі рэкордаў Гінеса ў Маладзечне

Індус Рам Чандра Бісваз мае намер да двухтысячнага года наведаць 200 краін свету. Яго маршрут на мінулым тыдні праходзіў праз Маладзечна, што дало магчымасць карэспандэнту "РГ" Васілю Савіцкаму сустрэцца з падарожнікам.

– Навошта ехаць у свет, хай і з высакароднай мэтай. Бо свет такі вялікі, а мы з вамі такія маленькія.

–Я журналіст, прафесар гімнастыкі па сістэме ёгі, але перш за ўсё грамадзянін. Я размаўляў з Богам, які сказаў, што трэба ехаць да людзей– заклікаць іх жыць у любові і сяброўстве. 14 гадоў таму з благаславення Бога, свайго народу, кіраўніка Індзіры Гандзі, бацькоў, я сеў на веласіпед і з высакароднай мэтай пачаў спадарожнічаць. На сёння я праехаў 373500 кіламетраў, пабываў у 126 краінах свету, наведаў 1141 горад.

–Каб так падарожнічаць, трэба мець немалыя сродкі. Вы багаты чалавек?

–Калі толькі выехаў з роднага горада, у кішэні меў адзін долар ЗША. І гэтым я даказаў, што грошы– не самае галоўнае. Цеплыня сэрцаў афрыканцаў, еўрапейцаў, амерыканцаў каштуе значна больш. Мне аказваюць дапамогу і простыя людзі, і прэзідэнты краін.

–Падарожжы на веласіпедзе звязаныя з рызыкай для жыцця, здаецца кожны раз сустракаешся са складанасцямі...

–Самая галоўная праблема– ежа. Напрыклад, у кожным месцы свая крыніца пітной вады з розным хімічным саставам, што негатыўна ўплывае на арганізм. Я ўжо не кажу аб стравах. У Францыі мне рабілі аперацыю на страўніку, за якую мясцовыя ўлады заплацілі клініцы 20 тысяч долараў ЗША.

–Колькі разоў вы развіталіся з Богам, народам, бацькамі?

–Я паміраў 9 разоў. На Алясцы змёрз і ўжо страціў прытомнасць. Бог зрабіў так, што на маім шляху з'явіліся людзі.

–Як мужчына– мужчыну. Вам 42 гады. Вы пабывалі ў 126 краінах. Шчыра– колькі ў вас жонак?

–Я не жанаты, не ўжываю алкаголь і не займаюся сексам.

–Усё ж такі, дзе самыя прыгожыя дзяўчаты? Толькі без падману.

–Я ніколі не падманваю. Аб самых-самых цяжка сказаць, але што ў Беларусі вельмі прыгожыя– бясспрэчна.

***Васіль САВІЦКІ***

### Што для горада даражэй?

Рэканструкцыя маладзечанскага мясакамбіната, хаця і са скрыпам, але ідзе. Так, за мінулы год на гэтыя мэты было выдаткавана 12 мільярдаў рублёў бюджэтных і 2,5 мільярда ўласных сродкаў. Поўнасцю заменены ўсе тэхнічныя камунікацыі, завершаны мантаж кампрэсарнага цэха і праведзена яго выпрабаванне. Дарэчы, пры правядзенні гэтых работ улічаны ўсе экалагічныя нормы.

Вядзецца будаўніцтва новага каўбаснага цэха, дзе будзе ўстаноўлена сучаснае аўстрыйскае абсталяванне. Сёлета павінна з'явіцца прадукцыя. Плануецца перавесці кацельню на прыродны газ, што таксама палепшыць экалагічную сітуацыю ў наваколлі. Але...

–Не разумею,– гаворыць дырэктар мясакамбіната Уладзімір Васілеўскі,– што даражэй для горада: мясакамбінат ці ... футбольнае поле. Калі горад не дапамагае ў будаўніцтве і рэканструкцыі нашага прадпрыемства, то хаця б палкі ў колы не ўстаўлялі. Упраўленне архітэктуры горада не дае дазвол на правядзенне ніткі газаправода да мясакамбіната, бо гэта закранае футбольнае поле. Між тым, праект быў узгоднены даўно. Ды пустка, дзе гэта поле знаходзіцца, вялікая і дазваляе аднесці яго крыху ўбок. Пакуль жа паразумення мы не знайшлі.

***Валерый МАРКЕЛАЎ.***

## "Кондуктор, не жми на тормоза"

МАЛАДЗЕЧНА. Маладзечанцы могуць быць незадаволенымі з прычыны прыняцця мясцовым гарвыканкомам рашэння аб падвойнай аплаце за карыстанне гарадскімі аўтобусамі па выхадных і святочных днях. Натуральна, не надта ім падабаецца і рух гэтых самых аўтобусаў – што па выхадных, што па рабочых днях.

І не ўсе, напэўна, ведаюць, што гэта звенні аднаго ланцуга: доўгі час асноўнай прычынай нестабільнай работы маладзечанскага АП № 4 з'яўляецца адсутнасць нармальнага фінансавання. Сам аўтапарк наўрад ці здольны зарабляць настолькі, каб замяняць шматгадовыя аўтобусы, мець дастаткова паліва і г. д.

За апошні час рэзка знізіўся пасажырапаток на прыгарадных маршрутах, у горадзе работа практычна заўсёды была стратная. Крыху выручае цяпер міжгорад, асабліва рэйсы на Гродна ды Сямяцічы.

Таму і даводзіцца дапамагаць аўтобуснаму парку ўвядзеннем "маршрутных таксі", якія абсалютна нічым не адрозніваюцца ад работы звычайных маршрутаў. Неаднаразова паведамлялася аб тым, што краіна пачала выпускаць свае аўтобусы – "Неапланы", "Ікарусы". Толькі нічога чамусьці не гавораць сталічныя журналісты, што мала якое аўтапрадпрыемства ў стане набыць напалову айчынныя машыны, – няма за што.

А ланцужок выстройваецца выдатны: пакупка аўтобусаў дае штуршок большаму іх выпуску (нават з магчымым зніжэннем сабекошту, хаця гэта часам даволі фантастычна гучыць) – у сваю чаргу работа на новых машынах прыносіць зручнасці не толькі пасажыру (няма хаця б зрываў рэйсаў з прычыны паломкі), але і менш грошай выдаткоўвае аўтапрадпрыемства (на рамонт, тэхабслугоўванне, паліва).

А на практыцы атрымліваецца крыху інакш. Намеснік начальніка АП № 4 Аляксандр Альшэўскі гаворыць, што напрыканцы года былі дні, калі лічаныя аўтобусы маглі выйсці на лінію (з прычыны зноў жа няспраўнасці). Заводы ў такіх выпадках адпускаюць работнікаў у адпачынкі за свой кошт. Аўтапарк не адпусціш.

Маладзечанскія "маршрутныя таксі" пачаліся ў пачатку жніўня мінулага года. За пяць месяцаў яны прынеслі аўтапарку дадаткова 376378 тыс. руб. даходу. Праўда, кошт аднаго капрамонтаўскага рухавіка "Ікаруса" складае больш за 1100 долараў.

Усе месяцы назіраецца ўстойлівы рост перавезеных пасажыраў (выключэнне – лістапад, калі гарвыканком у паўтара раза падвысіў кошт праезду; у снежні колькасць перавезеных пасажыраў вярнулася амаль да кастрычніцкай адзнакі – да павышэння цэнаў мы прывыкаем хутка, інфляцыяй беларуса не здзівіш).

"РГ" паведамляла чытачам аб увядзенні ў маладзечанскіх аўтобусах кандуктараў. Талоны на праезд летась у горадзе прадавалі вадзіцелі аўтобусаў, кантралёры, "Саюздрук", кандуктары. Апошнія пачыналі з параўнальна невялікага працэнта ў агульным "катле", а ў канцы года прадавалі да 70 працэнтаў усіх талонаў. І тут назіраецца ўстойлівая тэндэнцыя да росту гэтай лічбы. А гэта значыць, што, акрамя астатняга, усё больш маладзечанцаў вымушаныя купляць талоны – аплачваць свой праезд.

У снежні кожны кандуктар (а іх цяпер працуе 36 чалавек) рэалізоўваў талонаў у сярэднім на 7,6 мільёна рублёў. За сваю работу яны атрымліваюць па 15 працэнтаў ад выручкі (за "маршрутнае таксі" – па 10), акладаў ніякіх не маюць. Лепшыя зарабляюць да 1,5-2 мільёнаў у месяц. І з кожным месяцам прадаюць усё больш талонаў на праезд.

Такім чынам, "інстытут кандуктараў", які ў многім з'явіўся ў Маладзечне дзякуючы намесніку дырэктара АП № 4 А. Альшэўскаму, паспяхова дзейнічае. Вось толькі малавата гэтага для аўтапарка.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

## Для тых, хто верыць Месяцу

# Месяцавы каляндар на люты

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Панядзелак**<br>**Мес.дзень** | | 5<br>19.20<br>17 | 12<br>2.17<br>23 | 19<br>2.30<br>8.17<br>1,2 | 26<br>11.38<br>9 |
| **Аўторак**<br>**Мес.дзень** | | 6<br>20.26<br>18 | 13<br>3.28<br>24 | 20<br>8.44<br>3 | 27<br>12.21<br>10 |
| **Серада**<br>**Мес.дзень** | | 7<br>21.34<br>19 | 14<br>4.45<br>25 | 21<br>9.10<br>4 | 28<br>13.09<br>11 |
| **Чацвер**<br>**Мес.дзень** | 1<br>15.14<br>13 | 8<br>22.43<br>20 | 15<br>5.36<br>26 | 22<br>9.36<br>5 | 29<br>14.02<br>12 |
| **Пятніца**<br>**Мес.дзень** | 2<br>16.40<br>14 | 9<br>23.53<br>21 | 16<br>6.27<br>27 | 23<br>10.3<br>6 | |
| **Субота**<br>**Мес.дзень** | 3<br>17.10<br>15 | 10<br>-<br>- | 17<br>7.11<br>28 | 24<br>10.28<br>7 | |
| **Нядзеля**<br>**Мес.дзень** | 4<br>18.14<br>16 | 11<br>1.05<br>22 | 18<br>7.46<br>29 | 25<br>11.01<br>8 | |
| **Дата** | | 4 лютага | 12 лют. | 19 лют. | 26 лют. |
| **ФАЗЫ Месяца** | | 3 чвэрць<br>поўня | 4 чвэрць | 1 чвэрць<br>маладзік | 2 чвэрць |

Усход Месяца— для Маладзечна

**Крытычныя месяцавыя дні**— 9, 15, 19, 23, 29— патрабуюць перасцярогі і абароны.

**Спрыяльныя месяцавыя дні**— 6, 10, 12, 16, 17, 30— даюць добрую энергію і падтрымку светлымі сіламі.

### Месяц у знаках Задыяка

| ДАТА | 1 | 3 | 6 | 8 | 10 | 12 | 15 | 17 | 19 | 21 | 23 | 25 | 28 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ЗНАК | ♋ | ♌ | ♍ | ♎ | ♏ | ♐ | ♑ | ♒ | ♓ | ♈ | ♉ | ⌘ | ♋ |

## Суадносіны знакаў Задыяка з урадлівасцю

**Рак**– знак стыхіі вады, якім кіруе Месяц. Вельмі ўрадлівы знак. Рэкамендуем пасеў агародніны, перасадку. Добры час для пасадкі кветак, асабліва ружаў, прышчэпак. Спрыяльна нарыхтоўка лекавых траў. Садзіце каліну, абляпіху, але не бульбу.

Расаду палівайце, калі Месяц у водных знаках– Раку, Скарпіёне, Рыбах.

**Леў**– знак стыхіі агню, якім кіруе Сонца. Умеркавана ўрадлівы знак. Найбольш спрыяльны для пасадкі пладовых дрэў. Час Льва спрыяе занятку праполкай, нарыхтоўцы траў на сена, абрэзцы раслін, ссяканню дрэў.

**Дзева**-- знак стыхіі зямлі, якім кіруе Меркурый. Бяплодны або малаплодны. Дапускаецца пасадка лекавых раслін, кветак, якія не маюць паху.

**Шалі**– знак стыхіі паветра, якім кіруе Венера. Бясплодны. Менавіта калі Месяц у Шалях, нарыхтоўвайце клубні на захоўванне.

**Скарпіён**– знак стыхіі вады, якім кіруе Марс і Плутон. Урадлівы знак. Усе расліны, пасаджаныя ў час праходжання Месяцам Скарпіёна, устойлівыя да інфекцыйных хвароб. Садзіце агародніну, якая захоўваецца, перасаджвайце, дзяліце пакаёвыя кветкі. Але ў гэтыя дні не карыстайцеся хімікатамі: пах застаецца ў раслінах. Пры праполцы і акучванні не шкодзьце раслінам, інакш раны будуць балець.

**Стралец**– вогненны знак, якім кіруе Юпітэр. Умеркавана ўрадлівы знак. Гэты знак добры для пасадкі цыбулі, часнаку і зеляніны, якая хутка расце, салаты. Добра яго выкарыстоўваць для ўборкі садавіны, насення і караняплодаў.

**Казярог**– знак стыхіі зямлі, якім кіруе Сатурн. Умеркавана ўрадлівы знак. Добры для пасадкі цыбулі, морквы, буракоў. Дрэвам Казяргог дорыць доўгае жыццё, устойлівасць у экстрэмальных сітуацыях. Пакаёвыя кветкі ў гэты знак не перасаджвайце, бо будзе кволая каранёвая сістэма.

**Вадалей**– паветраны знак, якім кіруе Уран і Сатурн. Бясплодны знак. Непрадказальны. Не эксперыментуйце ў гэты час на градках.

**Рыбы**– знак стыхіі вады, якім кіруюць Нептун і Юпітэр. Урадлівы. Можна садзіць усе культуры. Знак спалучаны з тайнай і пры любві да раслін можа адарыць казачным ураджаем.

**Авен**– вогненны знак, якім кіруе Марс. Умеркавана ўрадлівы знак . Спрыяльны для пасадкі раслін, якія хутка растуць і адразу скарыстоўваюцца– салаты, зеляніны, шчаўя. Для кансервавання гэтых пладоў знак не спрыяльны, захоўвацца не будуць. Культывіруйце, праполвайце, апрысківайце, збірайце садавіну, караняплоды. Збірайце кветкі.

**Цялец**– зямны знак, якім кіруе Венера. Урадлівы знак для земляроба. Узмацняе прыгажосць кветак. Вашы ружы і гваздзікі будуць захапляючымі.

**Блізняты**– паветраны знак, якім кіруе Меркурый. Бясплодны знак. Можна нарыхтоўваць лекавыя расліны, якія знаходзяцца пад апекай Меркурыя. Абразайце дрэвы і кусты, рыхуйце ўгнаенні. Можна садзіць дэкаратыўныя бярозкавыя расліны.

На заметку гаспадыні: капусту квасіць у другую фазу Месяца каля поўні на Месяцы, які расце.

–прадукты кансерваваць на Месяцы, які расце, інакш яны будуць псавацца

– саджаць клубніцы і ўсю круглую садавіну, гародніну пажадана ў поўню– ні ў якім разе не на Месяцы, які расце, інакш ураджай будзе дрэнны.

*Іван ШУБЦІК, г. Маладзечна.*

## Рынак: у горадзе

# На лыжы, малеча!

***Нядаўна Валожынскі філіял вытворчага аб'яднання "Белпласт" пачаў адліўку новай прадукцыі— пластмасавых лыжаў для дзяцей дашкольнага ўзросту.***

Выпушчана першая партыя– 500 пар. Лыжы карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў спажыўцоў не толькі з-за прыгожага знешняга выгляду, сучаснага дызайну, а яшчэ і з-за таго, што іх некалькі гадоў не было на паліцах магазінаў. Аб'яднанне хутка скарыстала дэфіцытную прарэху.

*Наталля ШТЭЙНЕР*

## ... і ў вёсцы

# Дах паехаў

***Нядаўнія моцныя снегапады, акрамя ўсяго іншага, дадалі галаўнога болю праўленню калгаса імя Кірава Маладзечанскага раёна. Пад цяжарам снегу праваліўся дах канюшні ў вёсцы Селеўцы, і цяпер коней трэба распраўляць па жывёлагадоўчых фермах ці па дварах калгаснікаў.***

Некаторыя мяркуюць: гэта дыверсія. А дыверсанты– тыя, хто не хацеў лішніх вачэй, цягнучы кармы з фермы, бо на канюшню за гноем людзі ішлі практычна на працягу ўсяго светлавога дня, што, зразумела, было не да двара нячыстым на руку. Вось яны і пашкодзілі апоры ў канюшні. Цяпер ніхто перашкаджаць красці не будзе.

*Наш кар.*

## Жыццёвыя кантрасты

# Блукаюць фальшывыя долары

***МАЛАДЗЕЧНА. Ізноў выяўлены фальшывыя долараваыя купюры.***

Адну з іх днямі спрабаваў абмяняць на беларускія рублі ў абменным пункце ля магазіна "Фенікс" 25-гадовы грамадзянін Я. Адзнакі падробкі былі відавочнымі, таму збыць 50-доларавую купюру кліенту не пашчасціла. Па факту вядзецца следства супрацоўнікамі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю.

# Трагічная неасцярожнасць

***МАЛАДЗЕЧНА. Гора напаткала сям'ю з Абухаўшчыны.***

Яна згубіла двухмесячнае немаўля, якое памерла з-за неасцярожнасці. Маці прыціснула яго падчас сну. Падобныя факты зрэдку, але здараюцца.

*Аддзел інфармацыі*

# Чым рызыкуюць валютчыкі

***У Смаргоні ля магазіна "Дзіцячы свет" працуюць валютчыкі. Малюнак звычайны для беларускіх гарадоў.***

Сярод гэтай катэгорыі прадпрымальнікаў не існуе яўрэяў, рускіх, беларусаў. Валютчыкі інтэрнацыянальныя і кожны з іх верыць у сваю ўдачу. А яна, быццам тое каханне, да каго прыходзіць, а каго і мінуе. Сяргея падманулі, ды так, што жыць сіл нестае. Можа, таму ён і пажадаў паразмаўляць з журналістам.

–Каб стаць валютчыкам, трэба мець пачатковы капітал. І яго неабходна зарабіць. Амаль год я адпрацаваў на поўначы, звыш 10 разоў ездзіў у Польшчу. Сам па адукацыі гісторык. Ды што школа. Мае сябры студэнцкіх гадоў у школе зарабляюць 500-600 тысяч. Ці можна жыць на гэтыя грошы і марыць разам з жонкай аб сваёй кватэры? Але нельга думаць, што работа валютчыка складаецца з радасных хвілін, вялікіх заробкаў. У месяц можна зарабіць да 300 долараў, а можна застацца ў страце. Вось сітуацыя на сёння. Банк купляе долар за 11900, а прадае за 12500. Каб людзі ішлі да нас, мы вызначаем свой курс 12000-12400. З долара маем 400 рублёў. Дык гэта сёння, калі долар пайшоў у гару. А так, у асноўным, з долара маем 70-100 рублёў. Вось па чайнай лыжцы і зарабляем. А трэба яшчэ і рэкету плаціць, і рызыка, што з міліцыяй непасрэдна пазнаёмішся, бо закон парушаеш.

Сяргея жорстка падманулі. "Вясковы жыхар" пажадаў купіць дзве тысячы долараў. Патрымаў у руках "зялёныя" Сяргея ды і перадумаў. А калі пакупнік знік, прадпрымальнік убачыў, што трымае ў руках "ляльку".

Цяпер Сяргей п'е горкую і жыве ў сябра.

*З няўдачнікам гутарыў Васіль САВІЦКІ*

# Злачынцу цікавілі не харчы

***У мінулыя выхадныя ў Маладзечне абакралі камбінат харчавання.***

Невядомы залез сюды, праламіўшы цагляную сцяну. Яго не цікавілі прадукты харчавання, што можна было дапусціць. Злачынца сапсаваў халадзільныя камеры і кампрэсар, спіліў з абсталявання медныя трубы.

*Аддзел інфармацыі*

# Тайсанамі не нараджаюцца, імі становяцца

***МАЛАДЗЕЧНА. Згадванне пра мясцовы прафесійны бокс акрамя ўсмешкі нічога, здаецца, не выкліча. Аднак тут другі месяц дзейнічае раённы філіял Беларускай асацыяцыі прафесійнага бокса. І адразу "прафесіяналы" ўзяліся за справу — на 10 лютага намечана правесці першы ў гісторыі рэгіёна шоў-турнір.***

Хутчэй за ўсё, ён пройдзе ў рэстаране "Маладзечна", дзе спецыяльна ўстановяць рынг, прывезены з Мінска. Пасля турніру арганізатары наладжваюць вечар адпачынку, а пакуль жа шукаюць фундатараў: на абсталяванне спартыўнай залы для заняткаў боксам патрэбныя немалыя сродкі. Некаторыя вядомыя мясцовыя фірмы прапанавалі сваю дапамогу адразу – як, да прыкладу, "Фенікс".

Прэзідэнт маладзечанскага філіяла асацыяцыі прафесійнага бокса Валерый Капля скончыў школу ў Маладзечне, затым вучыўся ў педінстытуце, адкуль перавёўся на трэнерскі факультэт ІФК. На прафесійным рынгу правёў пяць баёў: 3 перамогі, 1 паражэнне, 1 нічыя. На пытанне пра мэту шоў-турніру ён адказаў:

– Хочам паказаць для маладзечанцаў, што такое прафесійны бокс. Прыедуць пяць баксёраў са сталіцы, шосты – я. У нашым горадзе шмат таленавітых хлопцаў, якіх мы хочам прыцягнуць да заняткаў, а затым і да выступленняў на прафесійным рынгу. А гэта і магчымасць зарабляць сваімі выступленнямі грошы. На 80 працэнтаў поспех вызначаецца характарам, працай.

У дапаўненне да сказанага можна нагадаць аб рабоце секцыі кікбоксінга ў Маладзечне (кіраўнік яе цяпер працуе ў Чысці), адкуль пачалі свой шлях пераможцы турніраў, што праводзіліся ў краіне і ў СНД.

Пачатак справе пакладзены: у старым будынку СШ № 2 (дырэктар – Ул. Шпетны) для заняткаў выдзелілі памяшканне, гарадскі аддзел адукацыі (загадчык – Ул. Ляговіч) дазволіў карыстацца ім бясплатна. Адпаведна бясплатныя будуць і заняткі. Аднак патрэбна абсталяваць залу, правесці дадатковы рамонт. На ўсё патрабуюцца грошы. Сусветны ж вопыт паказвае, што прафесійны бокс – выгаднае іх укладанне. Словам, можна не пытацца, хто такія Тайсан, Шарапаў?

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ*

# Злёт маладых паэтаў

*ВІЛЕЙКА. "Спявайце, юныя паэты!"– такую назву атрымаў злёт маладых паэтаў горада, што прайшоў у гарадскім доме культуры.*

Школьнікі, якія захапляюцца паэзіяй, родным словам, сабраліся разам, каб пачытаць свае творы, падзяліцца сваімі задумамі.

На сустрэчу з маладымі прыйшлі паэты Вілейшчыны– аўтары зборніка "Спатканне" Уладзімір Весялуха, Сяргей Паўлоўскі, Сяргей Мароз, Уладзімір Старадуб.

*Аддзел інфармацыі*

## Жыццё-бляшанка

# *Боўдзіла з Палачан і яго "нечапанка"*

***Працягваем знаёміць чытача з творамі нашага земляка, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі Міколы Капыловіча. Днямі ён прынёс у рэдакцыю чарговы свой допіс. Яго мы і змяшчаем у сённяшнім нумары "РГ".***

У прыхожай маёй халасцяцкай кватэры нечакана зазвінеў званок. Падыходжу да парога і пытаюся:

–Хто там?

–Валодзя Пякарскі з Палачан.

Адчыняю дзверы і бачу: госць прыйшоў да мяне не адзін. За яго спінай стаіць і шморгае носам нейкі недагледжаны хлапчук у мужчынскім – да пят – паліто, кірзавых ботах і ў заечай шапцы на галаве.

–Сын? –пытаюся ў Пякарскага, прапускаючы гасцей у кватэру.

–Які сын? –рагатнуў ён. –Гэта ж дзяўчына.

–Дык, мо, дачка?

–Ды не, сяброўка, жывем разам.

З Пякарскім я пазнаёміўся ў электрычцы. Ён ехаў у сталіцу па завяшчанне, якое прыйшло з Амерыкі ад дзеда. Мой новы знаёмы быў у адпрасаваным касцюме, пры гальштуку, чырванаморды, з ладным жыватом, на якім не сыходзіліся гузікі. І яшчэ мне кінуўся ў вочы яго шырокі, тугі карак. Запомнілася і тое, што мой сусед па лаўцы быў надта ж гаваркім чалавекам, да таго ж яшчэ і самадзейным паэтам. Ён усю дарогу надакучваў мне сваімі вершамі, якія не лезлі, як кажуць ні ў якія вароты. Потым гаварун сказаў, што працуе бульдазерыстам у Палачанах, прызнаўся, што за апошнія гады памяняў пяць жонак, цяпер жыве адзін і кожную суботу ездзіць у Маладзечна на вечары для тых, "каму за трыццаць", каб знайсці там сабе яшчэ нечапаную дзяўчыну... "Цяпер, калі атрымаю з Амерыкі даляры, знайду сабе нечапанку з дыпломам. Будзе перад сном ногі мне мыць за валюту,"– хваліўся ў вагоне ён, паляпваючы сябе па жываце і выскаляючы жоўтыя і доўгія, як у каня, зубы.

І вось цяпер ён прыйшоў мяне адведаць. Разам са сваёй "нечапанкаю".

Пільней прыглядаюся да госця і не пазнаю ў ім таго шчаслівага, што некалі ехаў у сталіцу – па амерыканскае завяшчанне. Тугі яго жывот цяпер абвісаў з-пад папругі парожнім мяшком, з якога толькі што высыпалі бульбу; карак сцягнула на маршчыны, а састарэлы шэры твар зарос шчэццю, нібы рудым балотным мохам.

–Ну, атрымаў даляры з Амерыкі?– першае, што спытаў я, калі госць прымасціўся на табурэце.

–Дзе там!– махнуў ён рукою– Сёстры завяшчанне перахапілі. Пакуплялі ўжо зяцям і сынам машыны.

–А як сам жывеш?

–На пенсіі цяпер...– Ён памуляўся азадкам на табурэце.– І пенсіі той ніяк на пражытак не хапае. А тут яшчэ трэба і яе карміць,– зірнуў ён на сваю мурзатую жонку, што ўмасцілася на маёй канапе. –Апранаць таксама. Бач, маю мужчынскую вопратку носіць. І нідзе не робіць. Толькі на курсы масажыстак ездзіць у Маладзечна. А за курсы трэба плаціць. Вось і жыві як хочаш. Пенсіі толькі на тыдзень хапае.

–Затое жонка ў цябе маладая! Аж зайздрасць бярэ! –выгукнуў я, каб суцешыць госця. –Ты некалі вельмі ж хацеў знайсці сабе пад старасць нечапанку. І, бач, знайшлася, дзякаваць богу. Няйначай, перад сном ногі табе мые....

–Усе мне зайздросцяць у Палачанах, што маладую ўзяў. Усяго дваццаць два гадочкі ёй. Толькі я вось нямоглы зрабіўся,– цяжка ўздыхнуў Пякарскі.– Не да любошчаў мне цяпер. А ёй моцны мужык трэба. Ну, як ты, напрыклад...–Памаўчаў.– Калі яе прыбраць у моднае ды зрабіць завіўку,– вачэй не адвёў бы. Ды шкада, што такая краса ў мяне марнее. Сірацінка яна. Можа, ты ўзяў бы яе да сябе жыць. Пакаёўкаю. Пакуль. А там і палюбіцеся, станеце мужам і жонкай. Яна табе будзе падлогу мыць, есці варыць, сарочкі і штаны прасаваць. І масаж рабіць перад сном. Кажу ж, на масажных курсах яна вучыцца. Вазьмі, не прападаць жа сіраціне.

–Выходзіць, ты хочаш сваю жонку замуж за мяне аддаць?– спытаў я.– Нават з пасагам і мехам бульбы?

–Чаму з адным?– шчыра здзівіўся госць.– Магу трохі і грошай у прыдачу даць.

–Боўдзіла ты!– не вытрымаў нарэшце я.– І як табе такое прыйшлоў галаву? Зараз жа выйдзі з маіх вачэй!

І вытурыў з кватэры госця. За ім выскачыла за дзверы і "нечапанка".

Праз тыдзень убачыў яе на кірмашы. Няйначай Пякарскі выдаў замуж. З бульбяным пасагам.

*Мікола КАПЫЛОВІЧ*

